


# Як адшукаць блізкіх?

**ПОШТА НА СЛУЖБЕ ІНТАРЭСАЎ ЭВАКУАВАНЫХ**

Вайна разлучыла многіх людзей, змусіла пакінуць наседжаныя знаёмыя, родныя мясьціны, уцякаць ад жахаў вайны у больш спакойныя краіны, аддаленыя ад баёвых падзеяў. Разам з гэтым шмат хто страціў свае сем'і, сваякоў і іншых блізкіх і дарагіх людзей. Зусім зразумела, што сярод эвакуаваных існуе нязлізарная патрэба даведацца аб лёсе блізкіх і паводля магчымасьці далучыцца да іх. Для задавальненьня гэтых патрэбаў і пакліканая адмысловая пошта, устаноўленая колькі месяцаў таму Нямецкім Камандаваньнем. Спачатку яна мела адзін паштовы цэнтар. Цяпер пошта пашырае сваю дзейнасьць. Утвораны чатыры бюро даведак і адрысоў. Яны будуць ня толькі перасылаць лісты, але і адшукваць людзей, адрысы якіх няведамыя адпраўнікам лістоў. Гэта дасьць магчымасьць людзям, што згубіліся за час вайны, устанавіць мейсцазнаходжаньне і даведацца аб лёсе асобаў, у якіх зацікаўленыя.

### Што трэба ведаць аб бюро даведак?

Для таго, каб каго-колечы адшукаць, трэба перш за усё ведаць, у якой вобласьці, рэспубліцы да вайны жыла гэтая асоба і у падпаведнасьці з гэтым ведаць, на адрыс якога цэнтральнага бюро даведак пісаць пра таго, хто шукаецца.

Для гэтае мэты арганізаваны чатыры бюро даведак. У кажным з іх будуць рэгістравацца весткі аб асобах пэўных вобласьцяў і акругаў. Тут мы падаём пералік рэспублікаў і вобласьцяў, што уваходзяць у чатыры цэнтральных бюро даведак.

### ЦЭНТР. БЮРО ДАВЕДАК № 1. Feldpost № 57800

Робіць пошукі асобаў з наступных вобласьцяў і акругаў:

**РСФСР**

Краснадарскага краю, улучаючы Адыгейскую аўтаномную вобласьць; Арджанікідзеўскага краю, улучаючы Карачаеўскую і Чаркескую аўтаномныя вобласьці; а таксама Кізлярскую акругу; Растоўскай вобласьці, Дагестанскай аўтаномнай рэспублікі, Кабардына-Балкарскай аўтаномнай рэспублікі, Калмыцкай аўтаномнай рэспублікі, Крымскай аўтаномнай рэспублікі, Паўночна-Асетынскай аўтаномнай рэспублікі, Чачэна-Інгускай аўтаномнай рэспублікі.

**УКРАІНСКАЙ ССР**

Запарожскай вобласьці, Нікалаеўскай вобласьці, Адэскай вобласьці, Сталінскай вобласьці.

**МАЛДАЎСКАЙ САВ. РЭСПУБЛІКІ**

**АЗЭРБАЙДЖАНСКАЙ САВ. РЭСПУБЛІКІ**

улучаючы Нахічаванскую аўтаномную рэспубліку.

**ПАЎДЗЕННА - АСЕТЫНСКАЙ АЎТАНОМНАЙ ВОБЛАСЬЦІ**

(Грузінскай сав. рэспублікі).

### ЦЭНТР. БЮРО ДАВЕДАК № 2. Feldpost № 11900

Робіць пошукі асобаў з наступных вобласьцяў і акругаў:

**РСФСР**

Варонежскай вобласьці, Курскай вобласьці, Сталінградзкай вобласьці, улучаючы Астраханскую акругу.

**УКРАІНСКАЙ ССР**

Віньніцкай вобласьці, Валынскай вобласьці, Варашылаўградзкай вобласьці, Днепрапятроўскай вобласьці, Жытамірскай вобласьці, Камянец-Падольскай вобласьці, Кіеўскай вобласьці, Кіравааградзкай вобласьці, Палтаўскай вобласьці, Ровенскай вобласьці, Сумскай вобласьці, Харкаўскай вобласьці, Чарнігаўскай вобласьці.

---

*Масей Сяднёў*

## ВЁСЦЫ

*Прыйшоўшы ў горад ад зямлі,*
*Ня змог ніяк я ў ім ужыцца.*
*Як сына, вёска, прытулі*
*Пад стрэхі саламяныя чужынца.*

*Даволі я стаптаў дарог...*
*Не, болей я цябе ня кіну!*
*Няхай адзін дзядоўнік і мурог!*
*Няхай адна прагорклая мякіна!*

*Ці-ж я па ёй такой ня ўзрос?*
*Пад шум дажджоў, глухі і немы,*
*Затое жоўты мне авёс*
*Прашапацеў свае паэмы.*

*Тугу, мой сьціплы верш, адкінь!*
*Заўсёды сьніся маладое!..:*
*Каб верш зьлічыць, я строф радкі*
*Паіў вячэрнім сырадоем.*

*І ў сьвет яму шлях не разрыт,*
*Глядзяцца ў вочы яму зоркі*
*І адбіваюць строгі рытм*
*З дзяўчат найлепшыя танцоркі.*

*Я, адарваны ад зямлі,*
*Нідзе ніяк ня змог ужыцца.*
*Як сына, вёска, прытулі*
*Пад стрэхі саламяныя чужынца.*

*1944 г.*

---

### ЦЭНТР. БЮРО ДАВЕДАК № 3. Feldpost № 19000

Робіць пошукі асобаў з наступных вобласьцяў:

**РСФСР**

Маскоўскай вобласьці, Арлоўскай вобласьці, Разанскай вобласьці, Смаленскай вобласьці, Тульскай вобласьці.

**БЕЛАРУСКАЙ ССР**

Баранавіцкай вобласьці, Брэсцкай вобласьці, Вялейскай вобласьці, Віцебскай вобласьці, Гомельскай вобласьці, Менскай вобласьці, Магілеўскай вобласьці, Пінскай вобласьці, Палескай вобласьці.

### ЦЭНТР. БЮРО ДАВЕДАК № 4. Feldpost № 39609 Ru

Робіць пошукі асобаў з наступных вобласьцяў і акругаў:

**РСФСР**

Калінінскай (Цьверскай) вобласьці, улучаючы Апочацкі раён, і Ленінградзкай вобласьці з Кінгісэпскай (Ямбургскай) і Пскоўскай агругамі.

Той, хто шукае сваіх сваякоў і знаёмых, мусіць пісьмова зьвярнуцца у тое бюро адрысоў, да якога аднесена мясцовасьць, дзе гэта асоба пражывала да вайны (да 22. 6. 1941 г.).

Беларусы, зацікаўленыя у лёсе сваіх сваякоў, эвакуаваных з тых або іншых вобласьцяў Беларусі, мусяць пісаць на адрас Цэнтральнага бюро даведак № 3, Feldpost № 19000, — бо, як ужо бачна з пададзенага вышэй пераліку бюро даведак, разам з некаторымі вобласьцямі РСФСР, менавіта у гэтым бюро будуць рэгістравацца весткі аб асобах з розных вобласьцяў Беларусі.

Пры выбары бюро для даведак ня важна, дзе жыве у сучасны момант асоба, што шукаецца. Важна і абавязкова ведаць, дзе яна пражывала да вайны і толькі выходзячы з гэтага і трэба зьвяртацца у падпаведнае бюро даведак.

Прыкладам, хто-колечы у Менску або у Рызе шукае асобу, што пражывала да вайны (22. 6. 1941 г.) у Гомельскай ці Магілеўскай вобласьці. Зразумела, ён мусіць перадусім даведацца у якое бюро даведак яму пісаць. Згодна пададзенага пераліку бюро даведак, гэтыя вобласьці адносяцца да Цэнтральнага бюро даведак № 3 і трэба пісаць туды на Feldpost № 19000. На гэты-ж адрыс трэба зьвяртацца і у пошуках асобаў з усялякай іншай вобласьці былой БССР.

Гэткім чынам, дзе-б хто ня быў, як-бы далёка не закінуў яго лёс, кажны праз адпаведнае бюро даведак можа заўсёды паведаміць аб сабе і даведацца аб мейсцы прабываньня іншых. Для гэтага хопіць уважліва прагледзіць сьпісак бюро даведак і знайсьці тую вобласьць, рэспубліку або акругу, дзе стала пражываў да вайны той, каго шукаюць, і напісаць на купэрце нумар ягонай палявой пошты

— бюро даведак. Дарэчы, слова Feldpost пішацца абавязкова лацінкаю. Напомнім яшчэ раз нумары палявой пошты кажнага бюро даведак:

Бюро даведак № 1 — Feldpost № 57800
Бюро даведак № 2 — Feldpost № 11900
Бюро даведак № 3 — Feldpost № 19 000
Бюро даведак № 4 — Feldpost № 39609 Ru

Запамятайце, што Бюро даведак № 4 мае нумар палявой пошты з лічбаў (39609) і двух лацінскіх (нямецкіх) літараў — Ru. На адрыс гэтай палявой пошты пішуцца запыты аб асобах, што пражывалі да вайны у Ленінградзкай і Цьверскай (Калінінскай) вобласьцях. І зусім ня важна, што цяпер яны магчыма жывуць дзе-небудзь у іншых усходніх вобласьцях або у Нямеччыне.

Паўтараем, што вырашальнае значаньне мае даваенны адрыс таго, каго трэба шукаць.

Аб усіх асобах з Беларусі, якіх шукаеце, пішыце на адрыс Бюро даведак № 3, Feldpost № 19000.

### Як запытваць?

Асобаў, якімі цікавіцеся, трэба вышукваць паводле вызначанай формы, якую мы тут падаём.

Запаўняючы форму запыту, трэба рабіць гэта акуратна, сачыць, каб ня было пропускаў. Аб тое ход, што часта сустракаецца шмат людзей з аднолькавымі прозьвішчамі і шмат супадаваньняў ня толькі прозьвішчаў, але і імёнаў, імёнаў па бацьку ды іншых дадзеных. Таму пажадана аб тых, каго шукаюць і хто шукае, мець як мага больш вестак, з менавіта і час і мейсца нараджэньня, фах, мейсца пражываньня пасьля пачатку вайны (пасьля 22. 6. 1941 г.), для жанчынаў — дзявоцкае прозьвішча і г. д. Тут бярэцца увага на наждзаньне больш падрабязных і поўных вестак аб адпраўніку ліста. Аб тое ход, што магчыма і яго ужо хто-небудзь са знаёмых ці сваякоў шукае або, ува усякім выпадку, могуць шукаць пазьней. Поўнымі весткамі аб сабе палягчаецца адшуканьне кажнага з нас зацікаўленымі асобамі. Калі больш у бюро даведак будзе вестак аб розных асобах, тады больш у іх будзе матар'ялаў для даведак і хутчэй будзе выконвацца адшуканьне знаёмых сваякоў.

Апрача таго, асаблівая увага бярэцца на тое, каб формы запытаў запаўняліся чытэльна, выразна, каб кажны чалавек мог свабодна і лёгка прачытаць напісанае. Для людзей з нячытэльным почаркам раіцца лепш пісаць друкаванымі літарамі або прасіць запоўніць форму запыту іншымі людзьмі, што валодаюць больш выразным почаркам.

У запытах не належыцца пісаць нічога лішняга. Трэба упісваць толькі адказы на пытаньні, не даючы ніякіх новых пытаньняў ад сябе і ніякіх новых дадатковых вестак. Але гэта ня кажа аб тое, што у адказах трэба быць вельмі стрыманым. Калі нестае аднаго або двух радкоў, можна выкарыстаць і тры і больш радкоў. Але важна, каб адказы былі толькі на зададзеныя пытаньні, поўныя і выразістыя.

У нашых-жа інтарэсах, каб справа адшуканьня сваіх знаёмых, блізкіх і сваякоў праходзіла выразна, арганізавана і хутка. Дзеля гэтага абавязкам усіх зьяўляецца рэгістрацыя у вадпаведных бюро даведак і падаваньне аб сабе вычарпальных вестак, што патрабуюцца. Гэтым мы палегчым працу самых бюро даведак і паскорым справу атрыманьня вестак ад сваякоў, адшукаваньня імі нас, а намі іх. Усе зацікаўленыя у вадшуканьні сваякоў і знаёмых адгукнёмся на заклік пісаць аб сабе у бюро даведак. А усім, хто шукае людзей з Беларусі, напамінаем:

### ЦЭНТР. БЮРО ДАВЕДАК № 3.
### Feldpost № 19000

Запытвайце на гэты адрыс аб усіх асобах з Баранавіцкай, Брэсцкай, Вялейскай, Віцебскай, Гомельскай, Менскай, Магілеўскай, Пінскай і Палескай вобласьцяў Беларускай ССР і Маскоўскай, Арлоўскай, Разанскай, Смаленскай і Тульскай вобласьцяў РСФСР. Калі вы з гэтых вобласьцяў і зацікаўлены, каб вас хто-небудзь адшукаў, пішыце на гэты адрыс аб сабе. Ня змушайце сваіх блізкіх і сваякоў нудзіцца у маркоце аб вас, бедаваць і наракаць на свой лёс. Паскорце іхнюю радасьць весткамі аб сабе, спацешцеся раднасьнымі навінамі аб дарагіх вам людзях. Чатыры цэнтральных бюро даведак заўсёды да вашых паслугаў.

**ФОРМА ЗАПЫТУ У АДРЫСНАЕ БЮРО ДАВЕДАК.**

**ХТО ШУКАЕ:**
(Дакладныя дадзеныя аб сабе)

Прозьвішча: *Рачыцкі*

Імя і імя па бацьку (у жанчынаў і дзявоцкае прозьвішча): *Сьцяпан Данілавіч*

Дакладны час і мейсца нараджэньня: *7. 2. 1910 г., в. Мядухава, Лагойская вол. і раён, Менская вобласьць*

Фах (прафэсія) і мейсца працы: *каваль, кузьня Паўлюковіча*

**МЕЙСЦА ПРАЖЫВАНЬНЯ ДА ВАЙНЫ (да 22. 6. 1941 г.):**

Вобласьць: *Віцебская*
Раён: *Полацкі*
Воласьць: *Сітнянская*
Горад або вёска: *в. Сітно*
Вуліца: — дом № —

**МЕЙСЦА ПРАЖЫВАНЬНЯ ПАСЬЛЯ 22. 6. 1941 г.:**
*гор. Полацак, Віцебская вул. 13, кв. 1.*

**ЦЯПЕРАШНІ АДРЫС:**
*гор. Ліда, Чыгуначная вул. 45, кв. 11*

**КАГО ШУКАЮЦЬ:**
(Дакладныя дадзеныя аб тым, каго шукаюць)

Прозьвішча: *Захарчук*

Імя і імя па бацьку (у жанчынаў і дзявоцкае прозьвішча): *Праскоўя Данілаўна (дзяв. прозьв. Рачыцкая)*

Дакладны час і мейсца нараджэньня. *11. 7. 1916 г., в. Мядухава, Лагойская вол. і раён, Менская вобласьць*

**МЕЙСЦА ПРАЖЫВАНЬНЯ ДА ВАЙНЫ (22. 6. 1941 г.):**

Вобласьць: *Гомельская*
Раён: —
Воласьць: —
Горад або вёска: *гор. Гомель*
Вуліца: *Вакзальная* дом № *63, кв. 5.*

**МЕЙСЦА ПРАЖЫВАНЬНЯ ПАСЬЛЯ 22. 6. 1941 г.:**
*гор. Гомель, Вакзальная вул. дом № 63, кв. 5.*





Злева, уверсе і справа: Палац графоў Пслоўс… быў цудоўным помнікам архітэктурнага мастацтва… фатаграфічныя здымкі палацу, зробленыя раней, … беларускае а…

# АРХІТЭКТУРНЫЯ ПОМНІ… СЛ…

Слонімшчына мае яшчэ шмат старых архітэктурных помнікаў, якія сьветчаць аб славе і прыгажосьці беларускага будаўлянага мастацтва.

Шмат архітэктурных помнікаў зьнішчыў час; ня даўшы магчымасьці нават замацоўваць іх на здымках, шмат зьнішчыла вайна.

Гэтак, засталіся толькі друзы з палацу Сапегаў — цікавага архітэктурнага помніка у Дзярэчыне.

Цікавы паводля архітэктуры быў кляштар у Быцені. Цяпер ён згінуў. Захавалася ад гэтага кляштару толькі адна вежа.

Разбураюцца руіны палацу Са-



Руіны палацу Сапегаў у Ружане, на Слонімшчыне.



Слонімская царква (былы кляштарны касьцёл).



Старыя будынкі касьцёлаў і цэрк… узорамі сярэднявяковага беларус… ку; касьцёл у …



*Востраўская царква у Слуцку, пабудаваная у тыповым народным архітэктурным стылі.*

Трэба наагул сказаць, што усе драўляныя цэрквы на Беларусі пабудаваныя выключна у беларускім нацыянальным стылі. Калі, скажам, нават і сялянская хата — звычайная чатырохсьценка — мае у сабе шмат мастацкага — расьпісаныя аканіцы, упрыгожаны разьбой карніз, франтон і брама і г. д. — дык у будаўніцтве сьвятыняў народ уклаў усе свае адвечныя імкненьні да прыгажосьці і свабоды.

Сучасны беларускі інжынэр-архітэктар сп. Мазгалеўскі у газэце «Голас вёскі» за 14 жніўня 1942 г. (№ 27) у артыкуле «Беларускі стыль у будаўнічай архітэктуры» падаў колькі цікавых думак адносна гэтага пытаньня. Ён уважае, што на Беларусі наагул пав官жныя будынкі складаюць не з круглякоў з нутраным абчосваньнем бярвеньняў, як гэта прынята у Расеі, а з брусьсяў, шчыльна прыгнаных адзін да аднаго. Вуглы або роўна выпускаюцца, або будынак ня мае выпускных вуглоў, і тады яны абшываюцца дошкамі розных узораў. З дапамогаю зарысовак з фатаграфіі адной старой Слуцкай драўлянай царквы, сп. Мазгалеўскі добра праілюстраваў асаблівасьці беларускага будаўлянага мастацтва. Як выяўляецца, і купал, і аправа званіцы і ганку, і вакон, і краткі для поручняў і дзьвярэй маюць свае нацыянальныя асаблівасьці. Скажам, у пабудове званіцы ёсьць нахіл да патройнага падзелу пралёту. Слупы і прагон хварбуюцца у сьветла-зялёны і сьветла-жоўты колер, а аправа дошчак — у шэры ці сьветла-сіні. У верхняй частцы робіцца абраз. Кратка для поручняў званіцы і ганку робіцца з брускоў розных узораў. Слупы на ганку маюць сваю адрознуую форму, якая ні у кога з іншых народаў не сустракаецца у пабудовах. На слупы нашываюцца плянкі. Слупы поручняў і кратка хварбуюцца на розныя колеры, бо у беларускай архітэктуры драўляныя часткі ніколі не хварбуюцца у вадзін колер, як у Расеі.

Верхняя частка вакна таксама драўляная, у той час, як у Расеі яна накладаецца разам з вакончым пераплётам і зашкляецца. Гэтак сама робіцца і дзьверы — з накладной архітэктурай, упрыгожанай разьбой, і хварбуюцца на розныя сьветлыя колеры. Пабудова даху беларускае сьвятыні мае гэткую форму над галоўным уваходам, як і над выступам пакрыцьця. З фронту на пярэдняй плошчы апошняга ёсьць месца для маляваньня абразоў, зноў-жа на колькі колераў. Гэта надта аздабляе царкву і адрозьнівае яе ад расейскае. Маскалі падобную форму даху пераймалі ад беларусаў, але франтон апрацоўваюць пераважна дашчаным дэкарацыйным разьбярствам мудрагельскае формы.

Кажучы пра некаторыя запазычаныя расейцаў з беларускае архітэктуры, сп. Мазгалеўскі слушна тлумачыць гэта тым, што беларусы, як старэйшы славянскі народ, раней займеў свае традыцыі у драўляным будаўніцтве.

У пачатку артыкулу аўтар падае цікавую вестку пра спробы беларускіх архітэктараў ствараць праекты новых пабудоваў у беларускім нацыянальным стылі і пра тое, як гэтыя здаровыя намеры глушыліся і адхіляліся Масквою (гісторыя з прэміраваньнем праектаў пабудовы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту).

Спроба сп. Мазгалеўскага у справе пошукаў беларускага нацыянальнага стылю у архітэктуры заслугоўвае на асаблівую увагу усіх беларускіх архітэктараў і чакае яшчэ шырокіх водгукаў, абмеркаваньня, навуковага пашырэньня і абагульненьня. Праўда, гэта ужо у належных формах можа будзе хіба пасьля вайны, калі ужо паўстане ува усёў сваёй актуальнасьці і практычнай правамоцнасьці пытаньне аб новым забудоўваньні зруйнаваных беларускіх гарадоў і сёлаў.

Аб мастацкай каштоўнасьці народных будаўляных традыцыяў можа добра сьведчыць вызнаньне нямецкага мастацтваведа, аўтара артыкулу пра беларускае мастацтва, д-ра Іпэля, які у гэтым артыкуле пісаў пра беларускія сялянскія пабудовы наступнае:

«У некаторых гаспадарскіх будовах мы тут знаходзім зноўныя формы грэцкага тэатру і хораму. Таксама сустракаюцца сялянскія двары, як прыкладам, у ваколіцах Рагачова, распляноўваньне якіх нагадвае элінiстычна-рымскія вільлі».

Мастацкая прапорцыя і гармонійнасьць, аздобленасьць мастацкаю разьбою і нацыянальнай арнамэнтыкай, а таксама своеасаблівасьць у пабудове і распляноўваньні беларускае вясковае сялібы могуць сваймі лепшымі узорамі вельмі прычыніцца справе стварэньня і распрацоўваньня сучаснага драўлянага беларускага будаўнічага стылю, а таксама нават, у цеснай лучнасьці з усёю гісторыяў беларускіх архітэктурных формаў, стварэньню манумэнтальнага беларускага стылю і у каменным будаўніцтве. Адгэтуль, і з гісторыі і з сучасных будаўляных традыцыяў выцякаюць і вытокі сучаснага беларускага архітэктурнага мастацтва. Асобнымі беларускімі вучонымі ад мастацтваведы, як Шчакаціхін, Касьпяровіч і інш., тут ужо зробленыя значныя уклады. Трэба здняваць іхнюю працу над вывучэньнем гісторыі беларускага мастацтва і асобна архітэктуры, над вывучэньнем сучаснага будаўніцтва, каб тым больш надаць ім беларускі нацыянальны кірунак.

*У. Глыбінны.*



*Мікалаеўскі сабор у Віцебску.*



*Новая царква у мястэчку Ільля — абраз Антона Каржавеўскага (1943 г.).*

# ПАМЯЦІ АНТОНА КАРНІЦКАГА



25 студня г. г. беларускае выяўленчае мастацтва панесла вялікую непапраўную страту.

У гэты дзень у Слоніме памёр малады шмат-абяцальны мастацкі талент. Памёр сьцяты старою хваробаю, набытай у часы праклятага польскага панаваньня, калі мастак спрабаваў праз панскія глумы і паняверку дабіцца фаховае асьветы, замыканай перад беларусамі.

Антон Карніцкі — сын селяніна-батрака з Цырынскае воласьці, Навагрудзкага павету, які пасьля перасяліўся у Слонім, ужо з малых год меў цяг да маляваньня і да навукі. Бацька-бядняк ходаецца з апошніх сілаў, каб неяк дапамагчы свайму таленавітаму сыну. Ен хоча яго бачыць вучоным чалавекам. Але на беларускай зямлі панаваў польскі пан. Беларус ня меў доступу у сярэднія і вышэйшыя школы. Дзеля таго, каб гэты доступ атрымаць, ён павінен быў вырачыся сваё веры, сваё мовы, сваё бацькаўшчыны. Польскія гімназіі не зачыняюць дзьвярэй перад Антонам Карніцкім, бо бацька-батрак не можа заплаціць за сына вялікія школьныя аплаты, а стыпэндыі — не для беларусаў. Тады Антон Карніцкі едзе у танейшую польскую настаўніцкую сэмінарыю у Слоніме. Хоць зусім ня чуе настаўніцкага пакліканьня — але трэба вучыцца. Але сэмінарыі А. Карніцкі ня скончыў — выключылі. Едзе шукаць далей мейсца, дзе мог-бы вучыцца. Нясьвіж. Польская гімназія. Але бацька ня мае чым плаціць. 175 злотых — цэлы сялянскі набытак за паўгода. Карніцкі зноў выкінуты. Едзе у Вільню, у Навагрудак і гэтак дарыўкамі хапае навуку. Нарэшце дамагаецца свайго — у 1937-38 годзе трапляе у спэцыяльную мастацкую школу у Варшаве. Вучыцца тэхніцы маляваньня і вось ужо тады, вядучы галоднае і жудаснае існаваньне, без грошай, без вопраткі, без добрага памешканьня, мастак набывае невылечную хваробу бяды і нэндзы — сухоты. Вайна перапыняе навуку. А. Карніцкі жыве со сваіх малюнкаў. З прыходам нямецкіх войскаў вяртаецца на бацькаўшчыну, сьпярша у Баранавічы, а пасьля — у Слонім. Беларускае грамадзянства шчыра падтрымоўвае свайго мастака; частка ягоных твораў закупляецца для Слонімскага Музэю але хвароба ужо даканала свайго. Нягледзячы на усе захады, мастак гіне. Гіне маладым — у трыццацігадовым узросьце.

Антон Карніцкі — мастак Слонімшчыны. Малюнкі Слонімскае вёскі, зарысоўкі Слоніму. Сакавітыя беларускія тыпы, партрэты.

Невялікі збор малюнкаў мастака знаходзіцца у Слонімскім Музэі. Каля сотні абразоў і малюнкаў А. Карніцкага знаходзіцца у прыватных руках.

Апошнім часам мастак рыхтаваўся да выстаўкі, якая мелася хутка ужо адбыцца. Але раптоўная сьмерць не дапусьціла мастака ужыць асабіста у ёй удзел, каб прыняць заслужаную узнагароду з рук беларускага грамадзтва.

Хай-жа будзе яму лёгкай родная беларуская зямелька, харастве якой ён выяўляў у сваіх мастацкіх таленавітых творах.

*Н. Жур.*



*Антон Карніцкі: «Партрэт маці».*



*Антон Карніцкі: «Сярод красак».*



*Антон Карніцкі: «Мэндлікі» (1943 г.) — акварэль.*

# ГУМАР



*Што-ж ты, прачка-самапрадка,*
*Ды ня голасна гудзіш?*
*Што-ж ты, любая каханка,*
*Невясёлая сядзіш?*

### Прагаварылася

Маці: — Скажы мне, ты учора цалавалася з Вішуком?

Дачка: — (маўчыць).

Маці: — Чаму-ж ты маўчыш, ня можаш сказаць праўды?

Дачка: — Не магу.

Маці: — Чаму?

Дачка: — Я дала яму слова, што нікому аб гэтым ня буду казаць.

### У паліцыйным вучастку

— Сп. Начальнік, дазвольце пагутарыць са злодзеем, які абакраў нас пазаўчора уначы.

— А навошта гэта вам?

— Я вось, бачыце, хацеў-бы у яго спытацца, як яму удалося трапіць уначы ў нашу кватэру, не разбудзіўшы маёй жонкі. Ужо дзесяць год, як мне гэта не удаецца.

### Ня ідуць, а слухаюцца

— Як ідуць вашы справы?
— Ды, ведаеце, ня гэтулькі ідуць, колькі слухаюцца.

### Сарамлівая артыстка

Рэжысэр: — Што мне зрабіць, каб выклікаць у вас больш пачуцьця у сцэне, дзе вы цалуецеся.

Артыстка: — Зачыніце заслону, выдаліце усіх са сцэны і пакіньце мяне адну з гэтым мілым блёндынам.



*Гасі, дзеўка, аганёк*
*Ды кладзіся спаці,*
*Бо ня прыдзець міл-дружок —*
*Забаіцца маці:*
*Сядзіць маці на крыльцэ,*
*Дзяржыць кій ў сваёй руцэ.*





*Прэльскія хлопцы — ёршы:*
*Ходзяць голавы ўзьдзёршы.*
*А ў іх боцікі з падкоўкам —*
*А ў іх хатачкі з падпоркам.*

### Вытлумачыў

Маладая: — Тата сказаў мне, што дасьць нам у дзень шлюбу чэк на 10.000 марак.
Малады: — Тады назначым шлюб ня у 6 гадзінаў, а у 11 — таму, што банк зачыняецца а 1 гадзіне.

### У мануфактурнай краме

— Слухайце, гэта каапэратыў?
— Не, гэта мой прыватны інтарэс.
— Дык чаму-ж у вас так шмат мануфактуры?
— Гэта таксама мой прыватны інтарэс.

*Ішоў лысы ды з плешывым —*
*Знайшлі яны грэбень.*
*Адзін — плюнуў, другі — харкнуў:*
*← Ён нам не патрэбен!*



*Пад новым мостам*
*Круціць рыба хвостам.*
*Люблю цябе, дзяўчыначка,*
*Што з вялікім ростам!*